ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 4 (2354) 27 студзеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 30 рублёў.

## ПРЭЗІДЭНТ І ДЗЯЎЧЫНКА



Прэзідэнт ЗША Біл КЛІНТАН з маленькай дзяўчынкай (якую ён узяў за руку, падвёў да мемарыяльнага знака) ставіць запаленую свечку ў памяць аб ахвярах Курапат.

Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.

Вельмі хацеў бы спадзявацца: гэты здымак гадоў так праз дваццаць абыдзе, прынамсі, беларускую прэсу. Як той, што быў надрукаваны, бадай, у кожнай газеце напярэдадні візіту прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў Беларусь -- прэзідэнт Джон Кенэдзі паціскае руку школьніку Білу Клінтану. Марыцца, што гэта безыменнае пакуль дзяўчо, якое разам з высокім госцем аддае пашану ахвярам сталінскіх рэпрэсій у Курапатах 15 студзеня 1994 года, стане мудрым дзяржаўным дзеячам, імя якога будзе ва ўсіх на вуснах. А імя Беларусі к таму часу стане сімвалам вольнай, дэмакратычнай і шчаслівай дзяржавы. Бясспрэчна, што пяцігадзінны візіт Прэзідэнта ЗША ў нашу ўсё ж суверэнную дзяржаву паслужыць таму, што свет будзе ведаць, дзе шукаць Беларусь на геаграфічнай карце.

Курапаты былі апошнім месцам, дзе паводле праграмы знаходжання завяршыўся маршрут Біла Клінтана. Нягледзячы на пратакол, гэтая старонка яго візіту, так непажаданая для пэўных колаў вышэйшай улады рэспублікі, была самай чалавечнай і непратакольнай.

І хацелася б верыць, што праз тыя ж дваццаць гадоў Курапаты будуць не толькі памяццю і болем Зянона Пазьняка, а месцам усенароднага пакланення мужнасці і пакутам людзей, якія любілі сваю Беларусь і марылі аб яе шчасці.

Ян ГІЛУЦЁВІЧ.

Вольга ІПАТАВА

## НАСТАЎНІК

Доктар Кіт запальвае свечку
у Майнцкім саборы.
Заблудзілася рэха ў вышынях
каменных прысад.
Змрочна біскупы з нішаў глядзяць.
Можа, клікаў каторы
"На Усход, на язычнікаў" колькі
стагоддзяў назад!
За высокім ілбом -- таямнічыя формулы веку,
Што на Месяц узняў чалавечыя
дзёрзкасць і тло.
Ззяе зорка над ім
(ці анёл, што трымае апеку),
Ды не згледзець яе: нетутэйшае гэта святло.

Над жыццём і нябытам яна,
і над лёсам вандроўным,
Над усім, што прайшло -- ды й сягоння жыве;
Над карэліцкім хлопчыкам,
што выганяе карову
І бяжыць басаног па асенняй пякучай траве.

Ён запальвае свечку, і цемра
ў куткі адступае.
Як асілак, у доўгім жыцці ён адужваў яе
Дзе як мог... А найбольш на радзіме, якая,
Ачмурэлая прышлымі, толькі
чужых прызнае.

Толькі не -- ён вяртаецца ў сінія далі.
І выстуквае сэрца: яшчэ... чым змагу...
памагчы...
Як усе, што ў чужыне душой не прапалі
(А сябры на радзіме прапалі
у вечнай начы).

Дык запальвайце свечку,
Настаўнік, асветнік, вучоны...
Колькі год паміж намі калолася
дротам сцяна.
Зараз разам ідзём --
хай дарогаю гразкай і чорнай,
Ратаваць Беларусь.
А яна ў нас, як доля, адна...

*Франкфурт-на-Майне, 3 снежня 1993 г.*

*МІНІ-ФЕСТЫВАЛЬ З ТВОРАЎ КАМПАЗІТАРАЎ ЗАМЕЖЖА*

# КАЛЯДЫ
# Ў "БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЕ"

**АДНОЙЧЫ -- а гэта было ўпершыню некалькі гадоў таму назад -- у Мінск прыехаў эрудзіраваны і цікавы чалавек.** Ён гаварыў на прыгожай, мяккай беларускай мове, называў імёны кампазітараў-беларусаў, якія многія з нас чулі ўпершыню, паказваў ноты і нават нешта адтуль напяваў. А быў гэта Гай дэ Пікарда, англічанін, юрыст па адукацыі і прафесіі, жыве ў Лондане і аддае ўвесь свой душэўны агонь збіранню і вывучэнню культуры Беларусі.

І вось тады ў мастацкага кіраўніка "Беларускай Капэлы" Віктара Скарабагатава зарадзілася ідэя: "адкрыць" аматарам музыкі творчасць тых беларускіх мастакоў, хто воляю лёсу апынуўся за межамі сваёй зямлі, аднак на ўсё жыццё захаваў любоў і адданасць ёй. Так склалася канцэпцыя своеасаблівага міні-фестывалю, прысвечанага музыцы так званага беларускага замежжа.

Аднак гэта толькі пачатак. Таму што імгненна ўзніклі шматлікія "але": як знайсці сляды жыцця і творчасці беларускіх эмігрантаў, імёны якіх зніклі з перыёдыкі не толькі даўніх гадоў, а і пазнейшых выданняў, дзе раздабыць ноты. На дапамогу прыйшлі вучоныя-энтузіясты. Гэта і Адам Мальдзіс, і ўвесь яго Культурна-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны, а таксама Лонданская бібліятэка імя Ф. Скарыны, якая прадаставіла свае архіўныя матэрыялы для вывучэння і адраджэння невядомай нам музыкі ў канцэртных праграмах.

Так ідэя набыла жыццё. І сёлета на Каляды "Беларуская Капэла" запрасіла сваіх сяброў і аднадумцаў у госці на канцэрты, дзе, бадай, упершыню адкрылася панарама музычнага мастацтва кампазітараў беларускага замежжа.

(Заканчэнне на 6-й стар.).




Першы калядны вечар у "Беларускай Капэле". Спявае Віктар СКАРАБАГАТАЎ.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*КАНФЕРЭНЦЫЯ БНФ*

### ПРЫНЦЫПОВЫЯ ЗМЕНЫ

**Адбылася соймавая канферэнцыя і чарговае пасяджэнне Сойму Беларускага народнага фронта.**

**Канферэнцыя была прысвечана перадвыбарчай перспектыве і палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы. З дакладам на гэтую тэму выступіў лідэр руху Зянон Пазьняк. Ён, у прыватнасці, заявіў, што палітычная сітуацыя ў Беларусі можа радыкальна змяніцца ў сувязі з тым, што Расія вядзе эканамічную вайну, задача якой -- абяззброіць эканоміку рэспублікі перад экспансіяй расійскага капіталу.**

**На пасяджэнні Сойму БНФ абмеркавана пытанне аб палітычным становішчы ў рэспубліцы, з адпаведнымі дакладамі выступілі намеснікі старшыні фронта Уладзімір Заблоцкі і Валянцін Голубеў. Справаздачу ўправы БНФ за паўгода яе дзейнасці зрабілі сакратары Вінцук Вячорка і Віктар Івашкевіч. Яны адзначылі, што ў дзейнасці руху адбыліся прынцыповыя якасныя змены -- рэзка паменшылася колькасць праводзімых БНФ мітынгаў, шэсцяў, пікетаў і гэтак жа рэзка павялічылася колькасць арганізаваных фронтам палітычных і навукова-практычных канферэнцый. Прыкметны таксама рост структураў БНФ па ўсёй Беларусі.**

*НА ПЕНСІЮ*

### НАМЕР ПАСЛА ЗША

**Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц у хуткім часе ад'язджае дадому. Гэта звязана з тым, што ён выказаў жаданне пайсці на пенсію.**

**Больш чым за два гады сваёй работы ў Мінску Дэвід Суорц стаў вядомым у грамадскіх і палітычных колах Беларусі. Яго дзейнасць звязваюць з развіццём двухбаковых адносін у розных галінах, а таксама садзейнічаннем у аказанні гуманітарнай дапамогі Беларусі з боку дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый ЗША. Заключным акордам дыпламатычнай кар'еры пасла ЗША стаў паспяховы візіт у Беларусь амерыканскага прэзідэнта Біла Клінтана.**

**Да назначэння новага пасла ЗША выконваць яго абавязкі ў Мінску будзе саветнік Джордж Крол.**

*ВЫКРАДАННЕ ГОДА*

### "САДЗЕЙНІЧАЛІ Ў ЗАТРЫМАННІ"

**Год Сабакі толькі пачаўся, а ўжо адбылася падзея, якая можа зацямніць усе іншыя, што яшчэ маюць адбыцца. 15 студзеня 1994 года ў дзень візіту прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў Беларусь, паміж 9-ю і 10-ю гадзінамі раніцы на адной з вуліц Мінска былі выкрадзены і вывезены ў Літву кіраўнікі кампартыі Літвы М. Буракявічус і Ю. Ярмалавічус.**

**Сенсацыя мае скандальны прысмак: былы сакратар ЦК Кампартыі Літвы Міколас Буракявічус і былы загадчык ідэалагічнага аддзела ЦК КПЛ Юозас Ярмалавічус, якія абвінавачваюцца ў змове з мэтай гвалтоўнага захопу ўлады ў студзені 1991 года, былі затрыманы ў Мінску літоўскімі спецслужбамі. Беларускі бок, які згадзіўся на такі крок, тлумачыць свае дзеянні спасылкай на дагавор аб прававой дапамозе паміж Беларуссю і Літвой, падпісаны ў 1992 годзе. Групе праваахоўных органаў Літвы, якую ўзначальваў намеснік Генеральнага пракурора, "аказалі садзейнічанне" адпаведныя службы Беларусі.**

**М. Буракявічус і Ю. Ярмалавічус знаходзіліся ў Мінску нелегальна.**

*НЕСПАКОЙНА*

### ЗНОЎ НА ІГНАЛІНСКАЙ

**Як паведаміў літоўскаму інфармацыйнаму агенцтву "Эльта" дырэктар Ігналінскай атамнай станцыі Віктар Шавалдзін, 18 студзеня ў 11 гадзін 44 хвіліны ў сувязі з паяўленнем цечы -- каля паўтара літра ў хвіліну -- у адным з памяшканняў рэактарнага аддзялення спынены першы блок станцыі.**

**У адпаведнасці з праектнай схемай гэта ўцечка адводзіцца ў штатную схему збору працечак без падання ў абслугоўваемыя памяшканні блока. Змяненняў радыяцыйнай абстаноўкі ў памяшканнях атамнай станцыі і па-за ёю няма. Дазіметрычная абстаноўка нармальная. Пасля расхаладжвання блока будзе дадзена дадатковая інфармацыя аб характары пашкоджання і тэрмінах рамонту, сказаў Віктар Шавалдзін.**

**Гэта паведамленне накіравана ў Міністэрства энергетыкі, арганізацыі нагляду Літвы, у МАГАТЭ.**

**Цяпер у рабоце знаходзіцца блок N 2 з нагрузкай 750 мегават, і, у адпаведнасці з заданнем энергасістэмы, нагрузка на ім будзе ўзнята да 1 300 мегават. Заўваг па працучаму блоку N 2 няма.**

**Бадай, самае прыкрае ў гэтай сітуацыі, што ні адна з адпаведных службаў Беларусі нічога не ведала пра чарговыя непаладкі на Ігналінскай АЭС, якая размешчана на граніцы з нашай дзяржавай.**

**Дарэчы, дырэктар АЭС паведаміў у прэсе аб здарэнні толькі праз 8 дзён.**

*МІТЫНГ ПРАТЭСТУ*




**Чарговы раз плошча Свабоды расквецілася транспарантамі, беларускімі флагамі. Сюды сабраліся жыхары сталіцы на мітынг, каб выказаць свой пратэст супраць безупыннага росту цэн, збяднення народа. Вельмі горка было слухаць, як гаварылі прамоўцы пра набалелае. "На нашу месячную зарплату, -- падкрэсліў, напрыклад, урач В.Саскабовіч, -- можна хіба толькі купіць 8--10 флаконаў валакардзіну". І такіх выступленняў на гэтым шматтысячным мітынгу ў Мінску было нямала.**

**На жаль, ні парламентарыяў, ні членаў урада мітынгоўцы так і не ўбачылі на плошчы Свабоды. Мінчане ў гэты дзень гаварылі аб недаверы кіраўніцтву рэспублікі, аб датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет. У прынятай рэзалюцыі ёсць патрабаванне цвёрда і паслядоўна дабівацца ад улад дзейсных мер па паляпшэнню жыцця народа.**

*ФІНАНСУЮЦЬ ФРАНЦУЗЫ*

### ВЫРАТАВАЦЬ КАЛОЖУ

**Французскія рэстаўратары з фірмы "Бланшон" гатовы ўзяцца за аднаўленне адзінага ў Беларусі архітэктурнага помніка XII стагоддзя -- Каложскай царквы.**

**Французскі бок возьме на сябе фінансаванне даследчых работ. Сама рэстаўрацыя, да якой будуць прыцягнуты і беларускія спецыялісты, запатрабуе немалых валютных сродкаў. Для атрымання іх мяркуецца звярнуцца да ЮНЕСКА, банка Еўрапейскага супольніцтва ў Берне. Але патрэбна дапамога і грамадзян Беларусі.**

**Разліковы рахунак фонду аднаўлення Каложскай (Барысаглебскай) царквы: N 700911 АКБ "Прыорбанк", г.Гродна, МФО 152101718. Для паштовых пераводаў: 230023, горад Гродна, вул. Замкавая, 20-а, Каложскі храм.**

*ГОД СЯМ'І*

### ФЕСТЫВАЛЬ У СЛОНІМЕ

**Сямейныя вакальныя і інструментальныя ансамблі з усіх абласцей Беларусі і Мінска ўдзельнічалі ў рэспубліканскім фестывалі, які адбыўся ў Слоніме.**

**Па выніках конкурсу лепшымі сталі звыш двух дзесяткаў калектываў, адзначаных як за выканаўчае майстэрства, так і за самабытнасць рэпертуару, мастацкае афармленне канцэртных праграм і сцэнічных касцюмаў. Яны атрымалі грашовыя прэміі і дыпломы. Астатнія ўдзельнікі заахвочаны памятнымі прызамі, устаноўленымі спонсарамі. Фестываль прайшоў у аб"яўлены Генеральнай Асамблеяй ААН Міжнародны год сям"і.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

САДЗЕЙНІЧАЦЬ адраджэнню помнікаў Нясвіжа -- такія мэты паставіў толькі што ўтвораны міжнародны фонд "Нясвіж". Найперш увага будзе звернута, вядома ж, на слынны палацава-паркавы комплекс горада. Плануецца таксама адрадзіць тэатральныя і музычныя калектывы -- нясвіжскага тэатра, балетнай школы і капэлы.

ЗА КОШТ дзяржавы будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка на доме, дзе працавала з 1928 года Тацццяна Бірыч, і помнік на яе магіле. Такім чынам Савет Міністраў Беларусі вырашыў увекавечыць памяць выдомага таленавітага афтальмолага, заслужанага дзеяча навукі і заслужанага ўрача Рэспублікі Беларусь Тацццяны Васільеўны Бірыч.

"ЛЮБІМЫМ" заняткам мінскіх падлеткаў стаў начны рабунак газетных кіёскаў, асабліва на ўскраінах сталіцы. Толькі ў адну ноч з 4 на 5 студзеня былі разламаны і спалены 8 кіёскаў. А тавару ў кожным з іх на 5--6 мільёнаў рублёў.

ПАДПАЛКОЎНІК Іван Тагіль стаў першым з беларускіх афіцэраў, якія будуць атрымліваць вышэйшую адукацыю ў Германіі. Абмен курсантамі будзе рабіцца паводле пагаднення паміж Міністэрствамі абароны Беларусі і Германіі. Падпалкоўнік Тагіль паехаў вучыцца ў ваенную акадэмію ў Гамбург. Хутка да нас прыедуць некалькі вайскоўцаў з бундэсвера.

БОЛЬШ паловы смяротных выпадкаў у Гомельскай вобласці -- вынік хвароб сістэмы кровавароту. Смяротнасць тут значна апераджае нараджальнасць. Прычына гэтай з"явы -- Чарнобыль.

ЭПІДЭМІЯ грыпу наступае на Беларусь. За першы тыдзень новага года ў найбольш буйных гарадах рэспублікі захварэла 23 тысячы чалавек, а за другі -- ужо звыш 33 тысяч. Найбольшы ўсплёск хваробы назіраецца ў Віцебску, Мінску, Бабруйску і Гродне.

У ГРОДНЕ прайшоў II з"езд Заходнебеларускага таварыства аховы птушак. Эколагі Гродзенскай і Брэсцкай абласцей падвялі вынікі аперацыі па выратаванню лугавога луня, ажыццёўленай мінулым летам. Намечана правесці конкурс "Беркут-94" і стварыць атлас птушак Заходняй Беларусі.

КОЛЬКАСЦЬ прамысловых жывёл у лясах Беларусі няспынна скарачаецца. За апошнія два гады пагалоўе ласёў паменшылася з 28 тысяч амаль што да 22-х, дзікоў -- з 39 тысяч да 32-х, аленяў -- у паўтара раза. Вялікую шкоду наносяць браканьеры, якіх развялося занадта многа.

МІЖНАРОДНЫ біяграфічны цэнтр Кембрыджскага універсітэта прызнаў Жанну Чарняк Міжнароднай жанчынай 1992--1993 года. Жанна Альбертаўна Чарняк -- дацэнт кафедры вышэйшай матэматыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і электронікі. Яе працы апублікаваны ў многіх замежных выданнях.

БАРАНАВІЦКАМУ педагагічнаму вучылішчу мяркуецца надаць статус каледжа, дзе будуць рыхтаваць настаўнікаў замежных моў для школ Брэстчыны. Тут не хапае такіх спецыялістаў: большасць настаўнікаў пайшлі са школ у камерцыйныя прадпрыемствы, дзе цяпер у пашане людзі, якія валодаюць англійскай ці нямецкай мовамі.

*ПАДСОБНАЯ ГАСПАДАРКА*



**Некалі на вёсцы людзі не ўяўлялі жыцця без зямельнага ўчастка і хатняй гаспадаркі. А потым, калі ў сельскіх магазінах сталі прадаваць смятанку, тварог, яйкі, прывезеныя з горада, многія сялчане зусім перасталі займацца падсобнай гаспадаркай. А гэта прывяло да таго, што шмат хто на вёсцы зусім забыў смак сырадою. Справы цяпер пакрысе выпраўляюцца: пачалося адраджэнне падворку. Са сваім жа пры любой уладзе, калі не сыты будзеш, дык хоць з голаду не памрэш.**

**Вось і Надзея БЯЛЯЎСКАЯ (на здымку справа) вырашыла спадзявацца на сябе. Ужо 9 гадоў жыве яна з мужам у вёсцы Забалоцце на Гомельшчыне. І ўвесь гэты час трымае сваю жыўнасць. Цяпер не толькі сабе хапае, а і дзяржаве ёсць што прадаць.**

## З'ЕЗД ФЕРМЕРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ДЗЕ І Ў КАГО ВУЧЫЦЦА

Усяго тры гады існуе на Беларусі арганізаванае фермерства. Справа гэта ў нас новая -- развіваецца марудна, увесь час сутыкаючыся з цяжкасцямі, перашкодамі. Факты, якія прыводзіліся на нядаўна прайшоўшым у Мінску з'ездзе фермераў рэспублікі, гавораць самі за сябе.

У справаздачным дакладзе старшыні Беларускага саюза фермераў Канстанціна Ярмоленкі адчувалася заклапочанасць нізкімі тэмпамі росту колькасці асабістых гаспадарак: у 1993-м у параўнанні з 1992-м годам гэты рост склаў усяго 1,3 працэнта. На сённяшні дзень у Беларусі зарэгістравана каля трох тысяч фермерскіх гаспадарак. Асабліва цяжка ідзе гэты працэс на Гродзеншчыне, Брэстчыне.

Факт, на першы погляд, трывожны, але адначасова наводзіць і на думку: а можа ў гэтым больш плюсаў, чым мінусаў, бо ідзе натуральны адбор тых, хто стане на зямлі сапраўдным гаспадаром.

І тут успомніў, як прыкладна год назад мне паскардзіліся жыхары Навагрудка, што ў калгасах раёна вельмі цяжка атрымаць у карыстанне зямлю. Чаму?

Пра гэта я спытаў у старшыні калгаса "Камунар" Святазара Грэйбы і яго намесніка Фёдара Федаровіча. Яны налічылі мноства прычын, па якіх жадаючыя стаць фермерамі атрымалі адмову. Адны не ведаюць нават, з якога боку да каня падысці, другія паставілі ўмову неадкладна, разам з выдзяленнем зямлі забяспечыць іх яшчэ і тэхнікай (а калгас не можа сёння дазволіць нават сабе такую раскошу), трэція не маюць элементарнай агранамічнай адукацыі.

Адным словам, без вучобы, без папярэдняй падрыхтоўкі тут не абысціся, бо, як падкрэслівалася на з'ездзе, у фермерстве ідзе працэс амаладжэння.

-- А дзе мне вучыцца? -- задаў пытанне будучы фермер з Міншчыны Мікалай Ліпняк, які трапіў на з'езд без запрашэння.

Хлопцу гадоў васемнаццаць. У школе ў выдатнікі не выйшаў. І таму паступіць вучыцца на агранома не змог. Рос без бацькі. Як сказаў Мікалай, трымаць у руках касу навучыў дзядзька.

-- Атрымаю гектараў пяць зямлі, а што на ёй садзіць, калі -- не ведаю, -- скардзіўся хлопец.

Сапраўды, у рэспубліцы ёсць і тэхнікумы, і ВНУ сельскагаспадарчыя, але не ўсе туды паступяць. Патрэбны курсы, каб скончыць іх мог кожны жадаючы.

Як і на чатырох папярэдніх з'ездах фермераў, трох з'ездах Сялянскай партыі праблема зямлі была ключавой у выступленнях і дакладчыкаў, і дэлегатаў. І тады была галоўная скарга: калгасы і саўгасы не даюць зямлю жадаючым стаць фермерамі ці даюць забалочаныя, зарослыя хмызняком участкі.

Не скажу, што не падымалася гэта пытанне і сёння. Але падыход тут быў больш узважаны, дзелавы, гаспадарскі.

-- Фермерская справа для нас новая, па сутнасці ідзе эксперымент, -- казаў мне адзін з дэлегатаў з'езда Мікалай Міронсчык. -- Пакуль жа рэспубліку кормяць калгасы і саўгасы. У многіх з іх кожны лапік зямлі на ўліку. Дык ці можам мы, фермеры, патрабаваць для эксперыменту самае лепшае поле?! Вядома, не. Але мы просім ніву, якая можа даваць ураджай, а не балота, нізіну, дзе пасля першага дажджу ўсё пасеянае змываецца вадой.

І ўсё ж у фермера, у гаспадара ёсць тое, чаго ніколі не будзе ў наёмнага работніка — калгасніка. Вось прыклады, якія давялося пачуць на з'ездзе. Міхаілу Парфёненку з Пухавіцкага раёна, калі ён памкнуўся ў фермеры, прапанавалі далёка не лепшы ўчастак зямлі, падлічыўшы, што на яго адраджэнне спатрэбіцца 700 тысяч рублёў. Мо такім чынам хацелі адбіць ахвоту?

-- Я ж на яго затраціў толькі 32 тысячы, — расказаў з трыбуны з'езда Міхаіл Фёдаравіч. — Нікому не скардзіўся, што мяне пакрыўдзілі, а ўзяўся за работу, бо калі рукі не прыкласці, то і на самай урадлівай зямлі нічога не атрымаеш.

Летась фермер здаў дзяржаве 12 тон малака, 2 тоны мяса, атрыманыя з той самай пустой зямлі.

Не лепшыя землі дасталіся і фермерам Кавалёву, Кісляку і іншым, але яны атрымалі з кожнага гектара па 45--60 цэнтнераў збожжа, што значна больш, чым на некаторых калгасных палетках.

Не сёння-заўтра фермер атрымае сваю зямлю. Такая думка прасочвалася ў выступленнях удзельнікаў з'езда, у гутарках з дэлегатамі ў час перапынкаў. Але на парадку дня выстраіліся новыя праблемы: крэдыты, энерганосьбіты, тэхніка.

-- Атрымаў сваё поле, -- казаў фермер з Міншчыны Мялешка, -- а чым апрацоўваць, не ведаю. "Мы табе далі зямлю, а цяпер як хочаш, так на ёй і гаспадарнічай", — адмахнуліся ад мяне калгасныя кіраўнікі. Крэдытаў не даюць, тэхнікай не дапамагаюць, каб сваю набыць... дзе там!

-- А калі і даюць, -- падтрымаў рэплікай з месца нехта з залы, -- то за цэнамі не ўгнацца: нядаўна трактар ці камбайн каштавалі восемсот тысяч, а сёння — мільёны. Пакуль жа крэдыт атрымаеш, то цана яшчэ падскочыць.

Такія рэплікі гучалі адна за адной. Часам не чуваць было голасу выступаючых. Набалела ў душы фермера: хапае сваіх цяжкасцей, дык яшчэ дзяржава падкідвае: то справядлівасці нідзе не знойдзеш, то не прыняты нейкі закон, то пад выглядам развіцця фермерства ідзе абагачэнне тых людзей, якія да фермерства ніякіх адносін не маюць.

І тут прыводзіліся канкрэтныя прыклады.

На Магілёўшчыне пад выглядам дапамогі фермерам будаваліся дарогі і пракладваліся лініі электраперадач да садовых участкаў, уладальнікамі якіх з'яўляюцца высокапастаўленыя асобы.

-- На нашай фермерскай гаспадарцы летась працавалі муж і дзеці, -- скардзілася Валянціна Лявоненка са Смаргоншчыны, — а падатковая камісія аднесла іх да ліку "наёмных рабочых". Прыйшлося плаціць дадатковыя падаткі. Ці справядліва гэта?

Такія і іншыя пытанні адрасаваліся і адказным работнікам розных міністэрстваў, што былі запрошаны на з'езд. Далёка не на ўсе пытанні фермеры атрымалі адказы. Неразбярыха ў заканадаўстве, у адносінах да статуса фермера пакуль яшчэ існуе, і не хутка, відаць, дзяржаўны барометр пакажа на "ясна".

"Але фермерства ўжо пусціла карані, за ім будучыня, нягледзячы на ўсю варажбу скептыкаў. Кіраўніцтва рэспублікі з надзеяй сочыць за яго развіццём, намячае шляхі і меры падтрымкі новых гаспадароў", -- такімі словамі старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча, які выступіў на з'ездзе, хочацца закончыць гэтыя нататкі.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**Доўгія гады працавала Валянціна Андрасюк у дзіцячым садзе калгаса "Беларусь" Жабінкаўскага раёна поварам. А потым вырашыла стварыць сямейную фермерскую гаспадарку. Арандавалі ў мясцовага калгаса 30 гектараў зямлі, узялі пазыку, набылі некалькі трактароў і аўтамашын, прычапны інвентар.**

**Цяпер усе затраты ўжо акупіліся. Толькі ў мінулым годзе сям'я Андрасюкоў прадала дзяржаве 22 тоны ячменю, 130 тон цукровых буракоў, дваццаць тон бульбы, а таксама тону мяса ялавічыны і паўтоны свініны. Так што, як гаворыць Валянціна Міхайлаўна, фермерства — справа выгадная, толькі рукі трэба прыкласці, не ленавацца.**

**НА ЗДЫМКУ: фермер Валянціна АНДРАСЮК.**

## ЛІЦЭЙ: ГАРАНТ БУДУЧЫНІ ГРАМАДСТВА АБО БЯСПЛАТНЫ ВЫСОКАКВАЛІФІКАВАНЫ РЭПЕТЫТАР?

# НАСТАЎ ЧАС ЗРАЗУМЕЦЬ: ВЕДЫ – КАПІТАЛ

**Якімі чароўнымі здаюцца гэтыя словы -- "гімназія", "каледж", "ліцэй"... Яны нібыта набліжаюць нас, сённяшніх, да таго даўным-даўно страчанага мінулага, якое цяпер бачыцца незвычайна прыгожым. Таму так прыемна бацькам дзе-небудзь прамовіць: а мой ці мая ў гімназію ходзіць. І вось ужо здаецца, што і сапраўды нешта ў жыцці мяняецца...**

-- На жаль, не так хутка, як хацелася б, -- кажа **Уладзімір КОЛАС**, дырэктар буйнога Беларускага гуманітарнага ліцэя ў Мінску. -- Ды і наіўна было б спадзявацца, што змены адбудуцца адразу ж, раптоўна, бо немагчыма за некалькі год змяніць магутную адукацыйную сістэму, што будавалася на працягу сямі дзесяцігоддзяў і, трэба адзначыць, някепска выконвала пастаўленыя мэты -- выхаванне грамадзян таталітарнай дзяржавы, кадраў для ваенна-прамысловага комплексу. Мэты цяпер, дзякуй Богу, памяняліся, але спыніць інерцыю самой сістэмы, скіраваць яе ў іншым напрамку вельмі цяжка. Прычыны тут як аб"ектыўныя, матэрыяльныя -- адсутнасць новых падручнікаў, недастатковае фінансаванне і г.д., так і суб"ектыўныя, маральныя — усе мы выхаванцы савецкай школы і таму, добра ўсведамляючы неабходнасць зменаў і рэформ, на практыцы часцяком дзейнічаем згодна са старымі стэрэатыпамі, што ўкараніліся ў падсвядомасці. Ды і сама афіцыйная мадэль ліцэя ў тым выглядзе, у якім яна існуе цяпер, патрабуе, на мой погляд, грунтоўнай дапрацоўкі. Пакуль што гэта, па сутнасці, тая ж былая савецкая школа, толькі далучаная да ВНУ. Трэба, каб ліцэй прапаноўваў навучэнцам большую свабоду выбару, трэба смялей мяняць змест адукацыі, збалансаванасць базавага і спецыялізуючага кампанентаў, гуманітарнага і дакладнага, тэхнічнага цыклаў. Але найперш неабходна вызначыць, што мы жадаем мець у выніку -- распрацаваць, так бы мовіць, ідэальную мадэль ліцэя. Усім гэтым мы і спрабуем займацца. Стварылі лабараторыю па распрацоўцы канцэпцыі нацыянальнай адукацыі, увесь гуманітарны цыкл выкладаем па ўласных вучэбных праграмах. Маем ужо першы ўласны падручнік -- па літаратуры народаў свету, бо што ўяўляла з сябе гэтая дысцыпліна раней, можна бачыць, напрыклад, з экзаменацыйных пытанняў за курс сярэдняй школы, дзе адзіным пытаннем, што тычыцца непасрэдна сусветнай літаратуры, ёсць "Проблема гуманизма в трагедии В.Шекспира "Гамлет". Усё астатняе -- руская літаратура. Я не кажу, што яна дрэнная, але, пагадзіцеся, што такім чынам беларускія дзеці проста адсякаюцца ад сусветнай культуры, якая, дарэчы, даводзілася да іх таксама толькі праз рускую мову.

Але ж, безумоўна, магутнасцей, сродкаў ліцэю не хапае, каб цалкам адразу забяспечыць усе навучальныя дысцыпліны падручнікамі. Тым не менш толькі за мінулы год зрабілі пяць праграм па пяці дысцыплінах, зацвердзілі іх у Міністэрстве адукацыі: логіка, філасофія, сусветная літаратура, беларуская мова, кінамастацтва. Раней таксама зацверджана каля дваццаці праграм, ну і робім падручнікі. Зараз спадар Сідарэвіч рыхтуе падручнік па гісторыі і логіцы. Хрэстаматыя па літаратуры народаў свету ўжо гатова, набраная. Пакуль жа ўсе гуманітарныя дысцыпліны выкладаюцца не з дапамогай падручнікаў, а па спецыяльных распрацоўках, набраных на камп'ютэры.

Наогул беларускі гуманітарны ліцэй -- установа цалкам дзяржаўная. Фінансуе нас толькі міністэрства, ніякіх дадатковых спонсараў мы не маем і разлічваць можам толькі на сябе, на ўласныя сілы. Ад дапамогі ж, безумоўна, не адмовіліся б: усім добра вядома, што такое бюджэтная ўстанова: пра заробкі наогул сорамна казаць, і гэта пры тым, што ў ліцэі працуюць высокакваліфікаваныя выкладчыкі, многія з якіх маюць навуковыя ступені. Ды і будынак ліцэя наогул цудоўны, у цэнтры Мінска, але ж без капітальнага рамонту з 1957-га года! Ён, між іншым, дастаўся нам у час перадзелу былой партыйнай маёмасці, праўда, не без бою.

Што больш за ўсё засмучае? Пэўны змест адукацыі і велізарная перагружанасць вучняў, а таксама пакуль яшчэ невялікая варыянтнасць у адукацыі, сапраўдная адсутнасць выбару, традыцыйная агульнасць для ўсіх. Адысці ж ад існуючых канонаў, так званай базавасці, мы не можам. Калі ад гэтага адмовімся , то страцім права выдаваць атэстат аб сярэдняй адукацыі.

**Далейшую размову ў беларускім гуманітарным ліцэі мы прадоўжылі са спадаром Анатолем СІДАРЭВІЧАМ, выкладчыкам, літаратарам, філосафам, гісторыкам.**

*-- Анатоль Пятровіч, чым, на ваш погляд, адрозніваецца ліцэй ад агульнаадукацыйнай школы?*

-- У школе я працаваў 8 год і ведаю, што гэта такое. Таму ў мяне сфарміраваўся прынцып, процілеглы вядомаму "не ўмееш -- навучым, не хочаш -- прымусім". Не ўмееш -- я навучу, не хочаш -- прымушаць не буду. Час зразумець і вучням, і бацькам, што веды -- капітал.

*-- Бацькі, пэўна, гэта разумеюць...*

-- На жаль, не. Многія з іх таксама яшчэ жывуць паводле старых уяўленняў: уладкаваў дзіця, а там ваша справа, вы яго выхоўвайце, вучыце. У ліцэі, на жаль, такая з'ява назіраецца таксама. Надзвычай жывучым аказаўся гэты савецкі стэрэатып. Але паўтару: асабіста ў мяне ніякіх прымусаў не практыкуецца, як атрымліваецца ў вучня, так няхай і будзе.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ПЕРШЫ ВІЗІТ У АФРЫКУ

Адным з першых падарожнікаў родам з Беларусі быў нясвіжскі князь Мікалай Крыштаф Радзівіл па мянушцы "Сіротка" (1543–1616). Ён належаў да той адукаванай часткі феадалаў, якая вывучала прыроду, мастацтва, гісторыю, адкрывала друкарні, школы, шпіталі.

Ён вучыўся ў Цюбінгенскім і Страсбургскім універсітэтах, пабываў у Аўстрыі, Італіі, Францыі, а ў 1583--1584 гадах і ў краінах Усходняга Міжземнамор'я.

У верасні 1582 года Сіротка выехаў з Нясвіжа, дабраўся да Венецыі, адкуль разам са сваімі спадарожнікамі адплыў у красавіку 1583 года. Наведаўшы Далмацыю, Іянічныя астравы, Крыт і Кіпр, ён прыбыў у Сірыю і праз Дамаск прыехаў у Іерусалім. У ліпені 1583 года цераз Іопу (цяпер Яфа), Ліван, Сірыю і Кіпр падарожнік дабраўся да Егіпта, жыў у Каіры і Александрыі. Адтуль у кастрычніку 1584 года ён выехаў на Крыт. У сакавіку наступнага года М.Радзівіл прыбыў на паўвостраў Калабрыя на паўднёвым усходзе Італіі, па сушы дабраўся да Венецыі, а ў ліпені 1585 года вярнуўся ў Нясвіж.

Праз дзесяць гадоў ён склаў канчатковы тэкст дзённіка сваіх вандровак, упершыню выдадзены ў 1601 годзе. За наступныя стагоддзі дзённік быў выдадзены дзевятнаццаць разоў на лацінскай, польскай, нямецкай і рускай мовах.

Падрабязна вывучыўшы літаратуру пра Блізкі Усход, Сіротка рабіў апісанне па ўласных назіраннях, крытычна ставячыся да скарыстаных ім крыніц.

Папулярнасці кнігі садзейнічала навізна аўтарскага падыходу да апісваемых з'яў.

І да Сіроткі, і нават пасля яго краіны Блізкага Усходу нашы землякі звычайна наведвалі, каб асабіста пераканацца ў існаванні мясцовасцей, апісаных у Бібліі. У выхаванага на ідэях еўрапейскага гуманізму М.Радзівіла іншы падыход да апісання далёкіх краін.

М.Радзівіл пастаянна звяртаўся да пытанняў канкрэтнай рэчаіснасці. Нават апісваючы "святыні", ён больш гаворыць аб будынках, іх месцазнаходжанні, памерах, будаўнічым матэрыяле, чым аб падзеях, з якімі яны звязаны.

Вялікую ўвагу ўдзяліў падарожнік помнікам архітэктуры: храму Іаана Хрысціцеля ў Дамаску, крыцкаму лабірынту (які насуперак легендзе лічыў старадаўнімі каменяломнямі), руінам крыцкага горада Гарціны, іерусалімскаму храму Гроба Гасподня, старажытнахрысціянскай калоне, якую тады памылкова звязвалі з імем рымскага палкаводца Пампея. Больш за ўсё ўразілі Сіротку сфінкс і піраміды.

У пячорах са старажытнаегіпецкімі пахаваннямі Сіротка бачыў мноства забальзаміраваных трупаў, "з якіх цел мумію бяруць". Падарожнік вёз дзве муміі дамоў, але ў час буры забабонныя пасажыры настаялі на тым, каб муміі былі выкінуты за борт, таму што яны бачылі ў іх прычыну буры.

Сіротка вызначаўся крытычным розумам. На падставе паказанняў механічнага гадзінніка і компаса ён адзначаў нераўнамернасць дня і ночы на Усходзе, што пярэчыла вучэнню Бібліі.

Пры відзе некаторых царкоўных славутасцей яго таксама ахаплівалі сумненні, якімі ён не баяўся дзяліцца з чытачом. Пры апісанні Мёртвага мора ён не выявіў там незвычайных фруктаў, што нібыта ператвараліся ў попел, як пісаў пра гэта гісторык I стагоддзя н.э. І.Флавій. Не ўбачыў ён і апісанняў у Бібліі статуі з солі жонкі Лота, аб якой старанна распытваў мясцовых старажылаў.

Не менш за старажытнасці Сіротку цікавілі клімат, прыродны свет, гаспадарка краін, у якіх ён пабываў, і жыццё мясцовага насельніцтва. На востраве Зантэ падарожнік бачыў, як вырошчваюць апельсіны, лімоны, вінаград, ён падрабязна апісаў выпарванне солі з марской вады і бавоўнасеянне на Кіпры.

У маляўнічым апісанні Сіроткам Мёртвага мора адчуваецца стыль сапраўднага мастака. Падарожнік расказваў аб забеспячэнні вадой і грамадскіх харчэўнях Кіпра, прымітыўных інкубатарах для вывядзення куранят у егіпецкім горадзе Сербіг, аб паліўным земляробстве і ўрадлівасці глебы ў Егіпце, аб вялікай ролі разліваў Ніла ў гаспадарчым жыцці краіны і народным святе ў гонар пуску вады ў арашальныя каналы.

Але падарожнік не ўтаіў, што большую частку вады прысвойваў сабе намеснік турэцкага султана, аб распаўсюджаным у краіне рабстве і праве рабаўладальніка забіць раба.

Наш зямляк звяртаў увагу на незадаволенасць захопленых Турцыяй народаў уладай заваёўнікаў, на жорсткае абыходжанне турэцкіх чыноўнікаў з мясцовымі жыхарамі, сацыяльную і нацыянальную іерархію ў Егіпце.

Многа месца ў "Падарожжы" адведзена апісанню невядомых жыхарам Беларусі жывёл -- хамелеона, гіпапатама, кракадзіла, нільскіх гусей, страусаў і інш. Апісанне Сіроткам жывёльнага свету Усходу ўяўляла цікавасць для чытачоў таго часу ўжо таму, што да гэтага яны павінны былі прымаць на веру фантастычныя апісанні звяроў "сабакагаловых" і "кентаўраў" у перакладной аповесці "Александрыя".

Сіротка ж у сваёй кнізе расказвае не аб міфічных жывёлах, а аб сапраўдных "кінакефалах", гэта значыць сабакагаловых малпах павіянах, якіх набыў у Александрыі для нясвіжскага звярынца. У Апамеі ён купіў драпежніка цыбету, у Александрыі -- леапардаў, драпежнікаў іхнеўмонаў, папугая, дзікіх коз.

Запіскі Сіроткі -- цікавая крыніца аб мінуўшчыне Блізкага Усходу. Больш за два стагоддзі імі карысталіся як найбольш поўнай і каштоўнай інфармацыяй жыхары беларускіх, літоўскіх, польскіх і іншых земляў. Нават у XIX стагоддзі да іх звярталіся турысты, якія наведвалі Блізкі Усход.

Кніга М.Радзівіла паслужыла штуршком да выдання геаграфічных твораў у Вялікім Княстве Літоўскім і сумежных дзяржавах.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**



Пасля снегападу.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# НАСТАЎ ЧАС ЗРАЗУМЕЦЬ: ВЕДЫ – КАПІТАЛ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Два малодшыя курсы мы набіралі ў ліцэй ужо на конкурснай аснове, пры экзаменацыйнай камісіі. Павінен сказаць, узровень малодшых -- вышэйшы, бо напачатку, калі ліцэй стварыўся і быў сапраўднай навіной, туды нярэдка ішлі дзеля цікавасці або прэстыжнасці. Цяпер жа пераважна ідуць менавіта атрымліваць адукацыю. Таму і яўных аўтсайдэраў сярод нашых навучэнцаў вельмі мала. Дарэчы, па выніках навучання тых, хто не спраўляецца, мы выключаем.

-- *Ці лічыце вы свой ліцэй элітарнай навучальнай установай?*

-- Не, пакуль, скажам так, наш ліцэй -- сярэдняя навучальная ўстанова з трохі шырэйшымі і глыбейшымі ведамі. Вучні звычайнай школы не вывучаюць логіку, рэлігіязнаўства, паліталогію, уводзіны ў філасофію. Гэта толькі тое, што асабіста я выкладаю ў ліцэі. Нашы навучэнцы таксама значна глыбей вывучаюць гісторыю, у тым ліку і беларускую. У звычайнай школе няма лацінскай мовы, грэчаскай. Да таго ж на выбар можна вучыць польскую, чэшскую мовы, у якасці абавязковай другой замежнай -- французскую альбо нямецкую. Ёсць у нас таленты: вучаць усё, што мы прапануем, і з такімі вучнямі проста радасна працаваць.

-- *Ці набываюць ліцэісты, акрамя ведаў, адпаведнае культурнае аблічча: манеры, інтэлігентнасць?*

-- Ведаеце, з "арыстакратамі духу" ў нас пакуль складанасці. А калі сур'ёзна, то вучацца ў нас самыя розныя дзеці, з самымі рознымі сямейнымі абставінамі. Ды і грамадства наша яшчэ, як кажуць, мае псіхалогію раба. Што такое псіхалогія раба? У Мікалая Ляскова ёсць такая рэч: нейкі пан, пабачыўшы, што ў Англіі сяляне жывуць у катэджах, таксама пабудаваў сваім прыгонным катэджы. Сяляне ж на злосць пану зноў зрабілі курныя хаты, а з катэджаў -- прыбіральні. Вось і мы можам бачыць, як, напрыклад, пасля рамонту па сцяне нехта праехаўся падэшвай бота. Гэта засмучае. Як не могуць не засмучаць запляваныя, закіданыя акуркамі пад'езды нашых дамоў, брудныя вуліцы...

-- *Цікава, пасля ліцэя вашы выхаванцы будуць кідаць акуркі ў карзіну ці каля яе?*

-- Хто як. Нашых выхаванцаў фарміруе сёння, на жаль, не толькі ліцэй. Каб рыхтаваць сапраўдную эліту, трэба мець адпаведныя ўстановы. Са сваёй бурсай, інтэрнатамі, дзе дзеці жылі б пастаянна, знаходзячыся ў адпаведнай інтэлектуальнай, маральнай, шырэй кажучы, этычнай атмасферы, дзе выпрацоўваюцца пэўныя каштоўнасці, пэўны светапогляд. Вось што такое эліта, вось чаму і баюся казаць слова "элітарны". Мы ж далёкія ад таго стандарту.

-- *А ці імкняцеся да яго?*

-- Скажам так: пэўныя перадумовы для таго ёсць. І наступным лагічным крокам мог бы стаць такі: ператварыць цяперашні ліцэй у закрытую навучальную ўстанову. Але гэта ўжо будзе абыходзіцца бацькам у капеечку. Зараз жа яны нічога не плацяць. А, між іншым, у нас выкладаюць больш дзесятка кандыдатаў навук. І атрымліваецца, што часам некаторыя бацькі разглядаюць ліцэй як рэпетытарскую школу перад паступленнем свайго дзіцяці ў вышэйшую навучальную ўстанову, бо працэнт паступлення нашых выпускнікоў даволі высокі. Дык ці не раскоша мець высокакваліфікаваных, з навуковымі ступенямі рэпетытараў бясплатна, за дзяржаўны кошт? Калі веды -- капітал, то трэба ўкладваць грошы, каб мець гэты капітал.

-- *А хто бацькі вашых навучэнцаў?*

-- У нас дзеці з розных сацыяльных груп. Ёсць дзеці рабочых, а калі інтэлігенцыя, то навуковатэхнічная -- інжынеры, тэхнікі, урачы... Якраз гуманітарыяў, мне здаецца, менш. Можа таму, што цяпер ёсць выбар паміж навучальнымі ўстановамі, а, можа, добра падрыхтаваны выкладчык з гуманітарнай адукацыяй у стане даць адпаведныя веды сыну ці дачцэ і без ліцэя. Гэта тое, што называлася калісьці хатнім выхаваннем.

-- *Спецыфіка вашага ліцэя ў значнай ступені яшчэ і ў тым, што ён цалкам беларускамоўны. Ці адбіваецца гэта неяк на ліцэістах?*

-- Цяжка ім. Часам некаторыя нават камплексуюць, бо дагэтуль паўсюль вакол іх руская мова. Здараецца, што з духу пярэчання і ў ліцэі дэманстратыўна размаўляюць па-руску. Ну, нічога. Як правіла, мы разумеем: яны франдзіруюць.

-- *А як наконт палітызаванасці? Бо ў нас атрымліваецца так, што нейкія моманты нацыянальна-культурнага адраджэння ідуць побач з палітыкай.*

-- Быў толькі адзін выпадак, калі вучні, як кажуць, у арганізаваным парадку трапілі на плошчу Незалежнасці. Гэта калі на сесіі Вярхоўнага Савета абмяркоўвалася пытанне аб дзяржаўным двухмоўі. Але і тады я выказваўся супраць гэтай акцыі. І цяпер мы не практыкуем такога. З таго адзінага выпадку мы зрабілі выснову, што дзяцей нельга ўцягваць у палітыку ні пры якіх абставінах. Іншая справа, калі вучні прыходзяць на палітычныя мітынгі і сходкі самі, па ўласнай ініцыятыве. Але павінен заўважыць, што ўвогуле палітыкай цікавяцца нямногія.

-- *А ці не адчувае беларускі ліцэй на сабе затуханне нейкага, калі можна так сказаць, "беларускага" буму, які назіраўся гады два назад?*

-- Безумоўна, Міністэрства адукацыі вельмі чуйна рэагуе на ўсе павевы ва ўрадавых калідорах. Нават былі пагрозы закрыцця ліцэя з боку асоб, якія могуць у адміністрацыйным парадку вырашыць гэтае пытанне. Але я не думаю, што да таго дойдзе.

Складанасцей шмат. Велізарныя нагрузкі кладуцца не толькі на вучняў, але і на выкладчыкаў. Напрыклад, я за два гады не меў ніводнага тыдня адпачынку. І здаецца, сярод калег я не адзін такі. Я забыў, што такое кіно, забыў, калі ў тэатр хадзіў -- знаёмыя акцёры проста часам здзіўляюцца... Так што бывае хочацца кінуць усё, але мне тады кажуць: усім цяжка, кінем усе, а хто і што тады застанецца?

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

*ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ПАДАННЯЎ*

# "УСЯСЛАЎ-КНЯЗЬ УНАЧЫ ВОЎКАМ БЕГАЎ"

## ЧАМУ ЛЕГЕНДАРНАГА ПОЛАЦКАГА ЎЛАДАРА ЛІЧЫЛІ ВАЎКАЛАКАМ?

ПОЛАЦКІ князь Усяслаў Брачыславіч, унук Ізяслава Уладзіміравіча (ці Яраполкавіча?, гл. аб гэтым наш артыкул у N 39 "ГР" за 1991 г.), уславулены ў "Слове пра паход Ігаравы", быў самым ваяўнічым, нястомным, прадпрымальным і неспакойным з усіх князёў полацкіх і ўсіх сучасных яму рускіх князёў. Усяслаў быў найбольш магутным полацкім князем, а Полацкая зямля ў час яго праўлення з'яўлялася моцнай дзяржавай, з якой павінны былі лічыцца ўсе падуладныя Кіеву княствы. Таму шматлікія нашчадкі першых полацкіх князёў і называюцца ў "Слове..." "ўнукамі Усяслава".

"Слова пра паход Ігаравы" даволі падрабязна апісвае поўнае драматызму жыццё Усяслава. Кожны сюжэт славутага твора, звязаны з дзейнасцю полацкага ўладара, варты пільнай увагі і вывучэння. Аднак нас сёння цікавіць толькі адна характэрная дэталь ва ўспрыманні гэтага героя старажытнабеларускай гісторыі яго сучаснікамі. Ім ён уяўляўся нейкім пярэваратнем, які невідзімкай бегае воўкам уначы і з'яўляецца раніцай там, дзе яго ніхто не чакаў. Так характарызуе князя Усяслава і "Слова пра паход Ігаравы". Зразумела, што гэта перш за ўсё мастацкі прыём. І наўрад ці полацкі князь быў сапраўдным "ваўкалакам", "чарадзеем". Такое магчыма толькі ў казках. Але кожнае фантастычнае, казачнае і чароўнае ўяўленне амаль заўсёды абапіраецца на нейкія гістарычныя падзеі і абставіны. І можа аказацца, што, пачаўшы апавядаць казку, мы незнарок перагорнем недаследаваную старонку гісторыі краю.

У кнізе Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь" ёсць згадка аб тым, што маці Усяслава паходзіла з нейкага фіна-угорскага племя. На думку вучонага, такім племем магла быць **водзь**, бо менавіта да гэтага фіна-угорскага народа звяртаўся князь Усяслаў за дапамогай падчас барацьбы з Ноўгарадам. Пры нараджэнні Усяслава прысутнічалі **валхвы** -- вешчуны, жрацы. Згодна з паданнем, пасля нараджэння на галаве Усяслава быў бачны "знак", бо нарадзіўся ён ад чараўніцтва (аб тым, што такое гэты "знак", падрабязна разважае М.Ермаловіч, таму не будзем на гэтым спыняцца). Усё гэта ў нейкай ступені тлумачыць, чаму славутага полацкага князя лічылі чарадзеем, аднак яшчэ не дае поўнага адказу на пытанне, чаму ж князя Усяслава называлі ваўкалакам.

Тут мы павінны зрабіць пэўнае адступленне ад асноўнай тэмы апавядання. Але ж наступныя нашы разважанні толькі знешне будуць уяўляцца як "адступленне". Па сваёй жа сутнасці яны з'яўляюцца аргументацыяй таго вываду, які будзе сфармуляваны ніжэй і які можа здацца вельмі нечаканым і нетрадыцыйным для даследчыкаў старажытнай гісторыі Беларусі.

**Ваўкалак** (ад стараславянскага **влъкъ** -- "воўк" + **длакъ** -- "поўсць") -- гэта пярэварацень, чалавек, нібыта здольны ператварыцца ў ваўка. У этнаграфічных апісаннях XIX -- пачатку XX стагоддзяў адзначаецца, што вера ў здольнасць чалавека ператварацца ў якую-небудзь іншую істоту, асабліва ў ваўка, цвярдзей [illegible] паўсюджвалася сярод беларусаў. Паданні аб пярэваратнях-ваўкалаках у сваёй аснове звязаны з татэмістычнымі ўяўленнямі (татэмізм -- першабытны культ жывёл, часам раслін ці іншых рэчаў, якія лічацца родапачынальнікамі племя). Але бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што культ ваўка не з'яўляецца па свайму паходжанню славянскім. Калі не сам гэты культ, дык веру ў здольнасць чалавека ператварацца ў ваўка, вераванні аб ваўкалаках славяне, якія жылі на тэрыторыі Беларусі, запазычылі ад кельцкіх народаў, у прыватнасці, ад кельцкіх плямён, якія выступілі ў гісторыі пад найменнем **неўры, нервіі**.

Упершыню пра гэты народ -- неўраў -- расказаў грэчаскі гісторык Герадот. Згодна з яго апавяданнем, за адно пакаленне да паходу персідскага цара Дарыя Першага Гістаспа на скіфаў (515 год да новай эры) неўры вымушаны былі пакінуць сваю краіну з-за змей. Справа ў тым, што ў іх краіне з'явілася шмат змей, а іншыя змеі, яшчэ больш шматлікія, рынуліся на неўраў з пустыні, вось неўры пад іх націскам і пакінулі сваю зямлю, перасяліўшыся да будзінаў. Герадот расказаў таксама, што неўры лічацца чараўнікамі, бо кожны неўр адзін раз у год на некалькі дзён ператвараецца... у ваўка, а потым зноў прымае чалавечае аблічча.

Праблема неўраў хвалюе даследчыкаў даўно. Гэты таямнічы народ прымалі за славян, за балтаў, за фіна-ўграў і размяшчалі адпаведна на розных тэрыторыях. На наш погляд, найбольш блізкай да ісціны з'яўляецца новая гіпотэза вядомага этымолага А.Трубачова, які лічыць неўраў кельтамі. Найменне **нервіі** (этымалагічна тое ж, што і **неўры**) было звязана на іншай тэрытоыі з досыць германізаваным племем, якое ўваходзіла ў племянны саюз **белгаў** у паўночнай Галіі; адсюль назва гальскай правінцыі **Бельгіка**, якая абмежавана на поўначы і ўсходзе Рэйнам, а на паўночным усходзе -- вобласцю Мозэля. Дык вось, паўночнагальскія нервіі былі звязаны з яшчэ адным кельцкім племем -- **кімврамі**. У гэтай сувязі цікава нагадаць назву былой вёскі **Кімбараўка** ў межах сучаснага Мазыра, побач з якой знаходзіцца старажытнае [illegible] Калі гаварыць пра найменне **неўры, невры (нервіі)**, то трэба зазначыць, што аналагічны кампанент -- "вр" -- маецца ў складзе геаграфічных назваў тых зямель, дзе ў мінулым жылі кельцкія і італійскія плямёны, -- Луўр, Гавр, Севр, Беврон (Францыя), Нісавр (Умбрыя ў Італіі), асабліва ж рэчка і дэпартамент Ньевр і горад Невер у Францыі.

Што ж датычыць Герадотавых неўраў, то яны, хутчэй за ўсё, былі не "чыстымі" кельтамі, а змешаным славяна-кельцкім насельніцтвам. У сярэдзіне І тысячагоддзя да новай эры на тэрыторыю Чэхіі і Падунаўя праніклі з Галіі кельцкія плямёны **боеў** і **волькаў-цектасагаў**. У Падунаўі, Чэхіі, Маравіі, Паноніі кельты ўступілі ў кантакт са славянамі, якія жылі тут спрадвеку (на Дунаі размяшчалася "прарадзіма" славян). Узаемадзеянне кельтаў і славян было не зусім мірным. "Повесть временных лет" апавядае пра нашэсце на дунайскіх славян ("нарцаў") нейкіх волахаў: "волахі напалі на дунайскіх славян-нарцаў і пасяліліся сярод іх, і прыгняталі іх". Славяне вымушаны былі перамяшчацца часткова на поўнач, часткова на ўсход. Думаецца, што добра вядомыя археолагам пшэворская культура на тэрыторыі Польшчы і сярэднедняпроўская зарубінецкая культура, якія ўзніклі ў ІІ стагоддзі да новай эры, -- гэта і ёсць асноўныя "цэнтры" славянства пасля нашэсця волахаў. У далейшым сярэднявяковыя аўтары ведаюць групоўкі плямёнаў венедаў, склавен і антаў (першыя стагоддзі новай эры). Гэта наступны этап рассялення славянскіх этнічных комплексаў на поўнач, усход, паўночны ўсход і паўднёвы ўсход.

У сярэдзіне І тысячагоддзя да новай эры разам са славянамі з Падунаўя рухалася і частка кельтаў. Дарэчы, летапіснае найменне кельцкіх плямён **волахі** адпавядае гістарычнаму іх этноніму **волькі** (гл. вышэй). Назва **волахі** пры перакладзе з кельцкіх моў азначае "ваўкі". Успомнім тут расказ Герадота аб ператварэнні неўраў раз у год у ваўкоў. Як можна тлумачыць гэта паведамленне? Што яно ўвогуле азначае? Хутчэй за ўсё, этнічны паток неўраў, які перасяляўся з-за нападу змей, складаўся са славян ("нарцаў; ці няма тут пераклічкі найменняў **нарцы** і **неўры, нервіі!**) і кельтаў-волахаў, татэмам якіх быў воўк. Ператварэнне раз у год [illegible] іншае, як своеасаблівае "прыпамінанне" неўрамі-кельтамі свайго сапраўднага паходжання. Увогуле ўсё гэта сведчыць аб працэсе асіміляцыі славянамі, якія пераважалі колькасна, кельтаў-волахаў. "Растварэнне" апошніх сярод славян суправаджалася, у прыватнасці, перадачай у славянскую мову асобных этнічных, геаграфічных назваў. Так, найменне **волахі** на славянскай глебе атрымала наступныя сэнсавыя змены. Перш за ўсё, яно аказалася сугучным найменню бога Велеса, якое звязвалася з паняццямі "жывёла, статак, паша". Бог Велес (Волас) ва ўсходніх славян часта меў эпітэт "Бог жывёлы" ("Скотий бог"). Падобнае збліжэнне прывяло да таго, што запазычаны ў кельтаў этнонім **волахі** пачаў выкарыстоўвацца славянамі для абазначэння ўсіх народаў (плямён, груп), якія займаліся пастухоўствам і жывёлагадоўляй у карпата-балканскім арэале. Як бачым, арэал ужывання назвы **волахі** заставаўся ранейшым, хоць яна працягвала пераасэнсоўвацца і ў далейшым. У старажытнацаркоўнаславянскай мове слова **влахъ** азначала ўвогуле чалавека раманскага паходжання. У сучаснай украінскай мове слова волох, у сербскай і балгарскай мовах слова **влах** маюць значэнні "валах, румын". Польскае "Влохы", чэшскае "Влахы" і назва **"Влахи"** ў помніках рускай мовы азначалі і азначаюць "Италия", адначасова польскае "Валошчызна" -- Малдавія. З XIV стагоддзя былі вядомы княствы Малдова і Валахія, якія аб'ядналіся ў 1862 годзе пад новай назвай -- Румынскае княства. Адзначым таксама, што ў нямецкай і англасаксонскай мовах этнонім **волахі** пры пераасэнсаванні стаў азначаць "чужак", "раб", "брыт, валіец" (адсюль і назва Уэльс).

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

**(Заканчэнне будзе).**



**На долю Вольгі Хадароўскай выпаў незайздросны лёс. З маленства засталася без бацькі. У вайну загінуў адзіны мужчына ў сям'і -- брат. Таму ёй, як і дзвюм яе сёстрам, прыйшлося выконваць работу далёка не жаночую: араць, касіць, малаціць. А калі выйшла замуж, то маладых аддзялілі. А ў той невялічкай хатцы, дзе Хадароўскія распачалі сваё сумеснае жыццё, не было ні лавы, ні віл, што гаршкі з печы выцягваць.**

**-- Ведаеце, цяпер нават здзіўляешся, як гэта мы ўсё здужалі, -- распавядае Вольга Мікітаўна. -- Днём жалі, снапы вязалі. Пасля абеду снапы падвозілі да малацілкі да дзвюх гадзін ночы. Не паспееш задрамаць, як трэба кароўку падаіць, зелля для жывёлы нарваць, у хаце прыбраць. І так увесь год. Палёгка была ўжо потым, калі новую хату пабудавалі, дабра трохі нажылі... Сына вось выгадавалі. Цяпер унукі падрастаюць.**

**Успамінаючы мінулае, Вольга Мікітаўна на лёс свой не скардзілася. Нібы так і павінна было быць. Здавалася мне, што яна трошкі і ганарыцца сабою, што змагла ўсё здужаць. За 65 гадоў жыцця яна ні разу не ляжала ў бальніцы, хваробы нібы міналі яе. І цяпер яна не сядзіць без справы, як выдаецца вольная хвіліна, бярэцца то кудзелю прасці, то вязаць што-небудзь для ўнукаў.**

**Жаночаму рамяству яна навучыла нявестку, унучку, якім пастаянна нагадвае:**

**-- Галоўнае, дзеткі, здароўе. Будзе здароўе, спакой у свеце -- тады і багацце нажывецца.**

**Віктар ВАЛАДАШЧУК.**
**Фота М. СУПРУНА.**

# ПАМЯЦІ Генадзя КАХАНОЎСКАГА

Пасля цяжкай хваробы заўчасна пайшоў ад нас Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі -- краязнавец, гісторык, публіцыст, апантаны даследчык беларускай мінуўшчыны і сціплы руплівец на ніве адраджэння Бацькаўшчыны.

Генадзь Каханоўскі нарадзіўся 8 студзеня 1936 года ў вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна. У 1963 годзе скончыў Маскоўскі дзяржаўны педагагічны інстытут, працаваў настаўнікам гісторыі і беларускай літаратуры ў маладзечанскіх школах. З 1964 года навуковы супрацоўнік, намеснік дырэктара, потым дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне. Абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў мінулым годзе — доктарскую, з 1982 года працаваў старшым навуковым супрацоўнікам спачатку ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, а ў апошнія гады жыцця -- у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны АН Беларусі.

Працам Генадзя Каханоўскага ўласціва грунтоўная навуковая аснова, багацце фактаў і пераканаўчасць высноў. Шырокае кола ягоных інтарэсаў уключала шматлікія грані матэрыяльнай і духоўнай культуры народа.

Ён быў адным з тых навукоўцаў, чыімі намаганнямі паўстала Беларускае краязнаўчае таварыства, старшынёй якога ён па праву быў абраны. Спадчына Г. Каханоўскага — гэта працы па археалогіі, гісторыі, фалькларыстыцы, этнаграфіі, краязнаўству, музейнай справе, даследаванні па гісторыі гарадоў Беларусі і ахове яе гістарычных помнікаў. З дапамогай Генадзя Аляксандравіча ўстаноўлены помнікі, мемарыяльныя знакі і шыльды ў шматлікіх гістарычных мясцінах Бацькаўшчыны. У сваіх гістарычных творах ён аддаў належнае мноству папярэднікаў, такіх жа руплівых даследчыкаў роднага краю, вярнуў нашым сучаснікам забытыя імёны, адкрыў і ўвёў у навуковы ўжытак невядомыя раней дакументы з архіваў, бібліятэк і музеяў Беларусі і замежжа.

Г. Каханоўскі быў адным з тых беларусаў, якія адкрылі родны край усяму свету, у якасці ўдзельніка археалагічных, этнаграфічных, фальклорных экспедыцый ён аб'ездзіў усю Беларусь, а родную Маладзечаншчыну ведаў, як ніхто іншы.

Як літаратуразнавец, ён закрануў цікавыя пытанні творчасці Я. Купалы, М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, Я. Коласа і іншых славутых пісьменнікаў, чыя творчасць з'яўляецца найкаштоўнейшай спадчынай беларускай літаратуры.

Усю творчую энергію душы аддаў гэты рознабакова адукаваны чалавек роднаму краю, і родная зямля яго ніколі не забудзе.

**Цэнтральная Рада БСДГ.**

Калектыў рэдакцыі "Голасу Радзімы" таксама смуткуе з прычыны смерці Генадзя Каханоўскага, які на працягу многіх гадоў быў нашым жаданым і шанаваным аўтарам. Яго апошні ў нашай газеце артыкул -- слова на развітанне з Міколам Лазарам, здатным краязнаўцам і добрым друкаром -- быў змешчаны 12 жніўня 1993 года. Мы цанілі ў асобе Г. Каханоўскага вучонага-даследчыка, таленавітага пісьменніка, спагадлівага, інтэлігентнага, шчырага чалавека, цікавага і разумнага субяседніка.

**Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы".**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**АЛЕ ХТО ж яны, гэтыя творцы і прапагандысты беларускай культуры, якія, нягледзячы на крутыя павароты лёсу, не здрадзілі свайму сумленню!**

Імёны М.Куліковіча-Шчаглова і М.Равенскага ўжо не навіна на старонках нашых газет і часопісаў, хаця яшчэ пару гадоў назад шырокая публіка, ды і знаўцы не ўпісвалі іх у гісторыю культуры Беларусі. Музыка гэтых маэстра загучала са сцэны, стала запісвацца на радыё, а музыказнаўчая спадчына М.Куліковіча (артыкулы, нарыс "Гісторыя музыкі Беларусі") прыкоўвае ўвагу як спецыялістаў-гісторыкаў, так і аматараў мастацтва.

Узнаўляючы атмасферу культурнага жыцця даваеннай Беларусі, можна справядліва сцвярджаць, што гэтыя музыканты былі сапраўдным творчым цэнтрам і сэрцам тагачаснай беларускай культуры. Атрымаўшы выдатную музычную адукацыю ў Маскоўскай кансерваторыі (клас прафесара Іпалітава-Іванава), нястомныя ў служэнні Музыцы, яны імкнуліся ахапіць розныя напрамкі музычнай дзейнасці. Так, М.Куліковіч-Шчаглоў узначальваў сімфанічны аркестр Беларускага радыёкамітэта, быў членам камісіі па аналізу становішча мастацтва Заходняй Беларусі (узначальваў яе Янка Купала), выкладаў у кансерваторыі і разам з гэтым актыўна тварыў -- збіраў, вывучаў і апрацоўваў беларускія народныя песні, пісаў сваю першую оперу "Кацярына" (лібрэта М.Клімковіча), выступаў у прэсе. М.Равенскі ў 20-я гады працаваў дырыжорам БДТ-1, выкладаў у музычным тэхнікуме і кансерваторыі, вывучаў беларускі фальклор і быў так захоплены гэтай невычэрпнай крыніцай прыгажосці, што літаральна заражаў сваёй любоўю да песні тых, хто жыў і працаваў побач з ім. Гэтыя словы пра М.Равенскага праз многа гадоў скажа яго саратнік, кампазітар і музыказнаўца Алесь Карповіч, які глыбока шанаваў талент свайго старэйшага калегі і падтрымліваў сувязь з ім у цяжкія гады эміграцыі.

Алесь Карповіч, Эльза Зубковіч, Рыгор Самохін, Міхаіл Зінчук, Вячаслаў Селях-Качанскі – гэтыя музыканты прадстаўлялі перадавую частку беларускага музычнага мастацтва 20-х—40-х гадоў нашага стагоддзя. Жыццё ў мастацтве Беларусі кожнага з іх, несумненна, заслугоўвае глыбокага вывучэння, таму што іх намаганнямі (часта, на жаль, нялёгкімі) адраджаліся і атрымлівалі развіццё тыя парасткі нацыянальнага, якія ўзышлі на нашай зямлі ў далёкія для нас цяпер гады.

І зноў звернем увагу чытача на высокі ўзровень прафесіянальнай падрыхтоўкі, "школы" гэтых музыкантаў: А.Карповіч -- выпускнік Маскоўскай кансерваторыі па спецыяльнасцях кампазіцыі і гісторыі музыкі, вучань вядомых прафесараў Спасобіна і Шэрмана; піяністка Э.Зубковіч -- выхаванка Варшаўскай кансерваторыі, а пазней Акадэмій музыкі Берліна і Штутгарта; М.Зінчук – таленавіты музыказнаўца, яркі і глыбокі погляд якога на музычны твор у многім сфарміраваны дзякуючы яго маскоўскаму настаўніку прафесару Л.Мазелю; В.Селях-Качанскі, спявак і тэатральны дзеяч, выпускнік оперных класаў Пецярбургскай кансерваторыі, а ў пачатку 20-х гадоў – саліст Марыінскага опернага тэатра. Сапраўднае "сузор'е" імёнаў і навучальных устаноў!

**БУДУЧЫ творцамі па сутнасці сваёй, усе музыканты, незалежна ад спецыяльнасці, спрабавалі сябе ў сачыненні – ці то апрацоўка народнай песні (бяда, што панавала ў той час), стварэнне інструментальных фантазій на беларускія тэмы альбо штосьці яшчэ.**

Напрыклад, піяністка Эльза Зубковіч у 20-я--30-я гады з'яўлялася актыўным музыкантам-выканаўцам, выкладчыкам музычнага тэхнікума і заснавальнікам кафедры агульнага фартэпіяна ў Беларускай кансерваторыі. Адначасова яна сур'ёзна займалася даследаваннем творчасці Брамса і Рэгера і нават рыхтавала да абароны дысертацыю па іх мастацтву. Разам з тым пяру Э. Зубковіч належыць нямала рамансаў і песень на вершы беларускіх паэтаў, п'ес для фартэпіяна, фантазія "Бульба". Пазней, ужо ў ЗША, яна выдасць вакальны зборнік "Край мой васільковы", падручнік для пачынаючых піяністаў "Першыя радасці". "Яе музыка -- шчырая і непасрэдная", -- так вызначыць кампазітарскі твар Э. Зубковіч Алесь Карповіч, і вельмі тонка гэтыя словы заўважаюць самае істотнае ў мастацтве кампазітара!

Шэраг фартэпіянных, харавых і вакальных твораў напісаны і самім А. Карповічам. Сярод іх -- фартэпіянная сюіта "Нёман", рамансы на словы Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Канстанцыі Буйло, Масея Сяднёва, Міхася Кавыля і іншых, апрацоўкі песень.

Адны створаны ім тут, на радзіме, іншыя -- у складаны перыяд эміграцыі. У многім дзякуючы Карповічу-музыказнаўцу і публіцысту, мы маем важныя і адзіныя з даступных сёння звесткі-факты, успаміны пра яго сучаснікаў, і перш за ўсё пра М. Куліковіча, М. Равенскага, Г. Самохіна, Э. Зубковіч і іншых.

Адна з яркіх і, верагодна, крайне непрымальных для так званай бальшавіцкай апазіцыі 20-х--30-х гадоў фігур у беларускім мастацтве -- Вячаслаў Селях-Качанскі. Спявак (бас), рэжысёр, публіцыст, кампазітар. Менавіта ён у 1927 годзе быў ініцыятарам, пастаноўшчыкам і выканаўцам адной з галоўных партый (Мельнік) оперы А. Даргамыжскага "Русалка", перакладзенай на беларускую мову і задуманай як адзін з першых крокаў на шляху станаўлення нацыянальнага опернага жанру і тэатра. Не вытрымаўшы пагрому ўсяго нацыянальнага, беларускага, уніфікацыі культуры, Селях-Качанскі паехаў за межы Беларусі, аднак вярнуўся ў 1943 годзе. Выпускі "Новага шляху" ваенных гадоў — сведчанне таго, што сэрца музыканта не пакідала радзімы: ён аналізуе ў артыкулах рэпертуар свайго тэатра, разважае пра шляхі яго развіцця, дзеліцца ўласнымі творчымі планамі. А планы гэтыя былі па-сапраўднаму высакародныя: у час вайны В. Селях-Качанскі паставіў на сцэне Мінскага грамадскага тэатра оперы М. Куліковіча-Шчаглова "Усяслаў-Чарадзей" і "Лясное возера", "Купалле" Туранкова і іншыя творы, якія, паводле яго слоў, сапраўды "выхоўваюць добры мастацкі густ, даюць эстэтычную асалоду і абуджаюць адначасна нацыянальныя пачуцці".

**КРЫХУ асабняком у плеядзе прадстаўленых тут дзеячаў нашага мастацтва стаяць кампазітары Дзмітрый Верасаў і Ян Тарасевіч.**

Яны не жылі ў Мінску, не "кіпелі" ў самым катле нацыянальна-культурных праблем, але кожны аддаў патаемную часцінку душы сваёй гэтай зямлі.

Будучы сынам землеўладальніка, "ворага народа", Д. Верасаў з ранніх гадоў быў вымушаны вандраваць з горада ў горад, зарабляючы на жыццё і выбіраючы імгненні, калі б мог -- утаіўшы "кулацкае" паходжанне -- вучыцца музыцы ў прафесіяналаў. Ужо ў ЗША напісаў тры оперы, адна з якіх "На край света" (на лібрэта М. Сяднёва) -- музычная трагедыя, прысвечаная беларусам, якія перажылі другую сусветную вайну. Найбольш вядомыя ў асяроддзі беларускай эміграцыі камерныя творы Д. Верасава, у прыватнасці, песні на вершы М. Кавыля, Н. Арсенневай, М. Сяднёва, Я. Золака.

Так, прозвішча гэтага музыканта сёння ні пра што не гаворыць нашаму слухачу. Але тут жа ўспамінаецца цікавы і па-свойму красамоўны факт творчай біяграфіі кампазітара: у сувязі з двухсотгоддзем Амерыкі ў ЗША была выдадзена энцыклапедыя вядомых амерыканцаў, дзе разам з іншымі названа імя беларуса Дзмітрыя Верасава...

Жыццё і творчасць Яна Тарасевіча — самая малавывучаная сёння старонка нашай музычнай гісторыі. Вось што расказала А. Каржанеўская, піяністка, незаменны памочнік і аднадумец усіх творчых пачынанняў "Беларускай Капэлы": "У час адной з канцэртных паездак у Польшчу мы выпадкова адкрылі імя Яна Тарасевіча, пазнаёміўшыся з яго сябрам і выхаванцам, які перадаў і некаторыя ноты свайго настаўніка. Сын гродзенскага губернатара, Ян Тарасевіч выбраў для сябе музычную ніву. Скончыўшы Пецярбургскую кансерваторыю як піяніст, а магчыма і кампазітар, ён вярнуўся на Беларусь, у Гродна. Да 1916--1919 гадоў адносяцца першыя харавыя і вакальныя творы гэтага кампазітара, сярод якіх і рамансы на вершы М. Багдановіча. Далей здарылася тая самая бяда, якая і перавярнула жыццё музыканта. Не пакідаючы Гродна, але ў выніку палітычнай сітуацыі, Я. Тарасевіч апынуўся на тэрыторыі іншай дзяржавы. Ехаць у Савецкую Беларусь? Наўрад ці чакала яна сына губернатара. Працягваць тварыць для Беларусі? У новых дзяржаўных умовах гэта небяспечна. Кампазітар выбірае самы трагічны для самога сябе шлях -- пісаць "у нікуды", дакладней, "у стол", толькі марачы аб выкананні сваёй музыкі".

Прайшоў час, многае змяніўшы і многае адкрыўшы ў нашым жыцці. І сёння, відаць, пачнуць збывацца тыя далёкія мары, якімі жылі адданыя Беларусі музыканты.

*МІНІ-ФЕСТЫВАЛЬ З ТВОРАЎ КАМПАЗІТАРАЎ ЗАМЕЖЖА*

# КАЛЯДЫ Ў "БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЕ"

**ПЕРШЫ студзеньскі тыдзень новага года падарыў слухачам тры канцэртныя вечары, дзе прагучала вакальная, фартэпіянная музыка кампазітараў беларускага замежжа.**

"Каляды ў "Беларускай Капэле" – так назвалі гэты музычны міні-фестываль.

Не ведаю, ці наўмысна, ці выпадкова, але тры калядныя канцэрты былі складзены -- карыстаючыся музычнай тэрміналогіяй -- па прынцыпу крэшчэнда, дынамічнага нарастання ўражання ад іх. У выніку ўзнік па-сапраўднаму адзіны цыкл, што прадставіў разнастайныя, але роднасныя сферы творчасці кампазітараў беларускага замежжа. Аднак -- па парадку аб усіх этапах-частках цыкла.

Вечар вакальнай музыкі адыграў менавіта ролю пралога. Упершыню загучалі са сцэны і імёны аўтараў, і большасць іх рамансаў і песень. Працуючы над праграмай канцэрта, выканаўцы імкнуліся прадставіць публіцы музыку рознага эмацыянальна-псіхалагічнага плана. Тут была і лірыка, і разважанне, а часам пакуты і драматычныя "страсці" душы. Думаю, найбольш выйгрышнымі аказаліся цёплыя, лірычныя старонкі музыкі, што выконвалася ў канцэрце: вельмі ўжо пранікнёна гучаў мяккі барытон Віктара Скарабагатава ў ансамблі з фартэпіянным "голасам" А. Каржанеўскай. Разам з тым успомнім і камічную "Ой, ды ў нашым сяле свадзьба будзе "М. Куліковіча-Шчаглова, якая набыла ў інтэрпрэтацыі выканаўцаў літаральна адчувальны выгляд, паўстала вясёлай сцэнкай. Цікавасць выклікалі творы Р. Самохіна "Непагодны вечар" (словы М. Багдановіча), "Кветы чырвоныя", запомнілася надзвычай добрая і светлая "Калыханка" Э. Зубковіч (словы Н. Арсенневай). Без сумнення, вылучалася ў праграме музыка М. Куліковіча-Шчаглова. Музыка для фартэпіяна — асобая сфера творчасці кожнага кампазітара. Прытрымліваючыся традыцый фартэпіяннага стылю Ф. Шапэна, С. Рахманінава -- а гэтыя імёны прыходзілі на памяць пры слуханні фартэпіяннай музыкі кампазітараў беларускага замежжа, -- яна заўсёды пакарае той бліскучай канцэртнасцю, якая арганічна ўласцівая шчодраму на фарбы інструменту. І калі гэта яе рыса спалучаецца з талентам Ігара Алоўнікава, музыканта найвышэйшага класа, то тут і схавана разгадка таго, што другі канцэрт каляднага фестывалю быў такім яркім і прыўзнятым па духу.

Тон быў зададзены з першых нот вальса, Беларускай фантазіі Яна Тарасевіча — рамантычнай віртуознай музыкі, што родніцца з мастацтвам вялікага Шапэна. Далей загучалі знаёмыя і незнаёмыя мелодыі беларускіх народных песень, па-рознаму ўплеценыя ў канву аўтарскіх твораў. Вялікая сюіта М. Равенскага, Варыяцыі на беларускую народную тэму Э. Зубковіч (у рэдакцыі І. Алоўнікава), Фантазія на беларускія народныя тэмы і 6 эцюдаў на беларускія тэмы М. Куліковіча-Шчаглова -- гэтыя своеасаблівыя канцэртныя п'есы стварылі фартэпіяннае "аблічча" мастацтва беларускага замежжа.

Нарэшце, трэці, на мой погляд, кульмінацыйны канцэрт. Ён не столькі дапоўніў, колькі значна расшырыў уяўленне аб творчасці ўсіх кампазітараў, бо па ўражаннях ад прайшоўшых музычных вечароў ужо скላліся нейкія вобразы індывідуальнага творчага почырку кожнага. Мы пачулі літургічныя хары "Благаславі, душа мая, Госпада" В. Селях-Качанскага і "Дар міру" Д. Верасава, фрагменты з Літургіі св. Яна Златавуста М. Равенскага, харавыя рамансы і народныя песні М. Куліковіча-Шчаглова і М. Равенскага. Але больш таго. У гэтым канцэрце мы сустрэліся з мастацтвам дзіўнага калектыву, які яшчэ раз пацвердзіў ісціну, што для слухача часта тое, як прагучыць музыка, вызначае і наколькі цікавая яна. Тэмбр камернага а капэльнага ансамбля мужчынскіх галасоў хору "Унія" проста невычэрпны! У ім ёсць і глыбокае стрыманае пачуццё ў творах літургічнай музыкі -- а які тут тэнар саліста Янкі Бурака! -- і спакойная ўпэўненасць у "Пагоні" (М. Куліковіч-Шчаглоў, словы М. Багдановіча), высокі смутак у "Сьпеце ўсе тыя" (М. Куліковіч-Шчаглоў, словы Я. Купалы), высакароднасць у "Магутным Божа" (М. Равенскі, словы Н. Арсенневай). Нездарма на прайшоўшым летась у Магілёве фестывалі "Магутны Божа" гэты калектыў не толькі стаў лаўрэатам, але і сабраў усе магчымыя прызы і ўзнагароды.

Вельмі хочацца спадзявацца, што тры прайшоўшыя калядныя канцэрты падарылі слухачам незабыўныя музычныя ўражанні. І, як сказаў Адам Мальдзіс на адкрыцці гэтага фестывалю, "калі прыйшоў бы да мяне спонсар, я папрасіў бы ў яго грошай толькі на адну справу -- вяртанне на Беларусь імёнаў і мастацтва ўсіх яе дзяцей".

**У ЗАКЛЮЧЭННЕ назаву імя кампазітара, жыццё і творчасць якога з'яўляюцца, дзякуй Богу, не чарговай трагедыяй нашай зямлі, а, наадварот, яе надзеяй.** Пецярбуржац Ігар Мацієўскі, доктар мастацтвазнаўства, дыпламант Міжнародных конкурсаў і фестываляў, член рады згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" актыўна працуе над беларускай тэматыкай як у творчасці -- рамансы, песні, балады, хары на вершы М. Багдановіча, В. Таўлая, Н. Арсенневай, народныя тэксты, літургічныя творы, -- так і ў навуковай дзейнасці (фальклорныя экспедыцыі на Палессі, Паазер'і). Але важней за ўсё іншае: І. Мацієўскі не проста ўвасабляе беларускую тэму, захапіўшыся яе асаблівасцю. Ён жыве беларускай ідэяй. У праграмах усіх трох канцэртаў гучала яго музыка: тонкія і пластычныя "Пентаметры" для голасу, па-філасофску паглыбленыя і больш інтэлектуалізаваны фартэпіянны цыкл "Нядаўняе і далёкае" і, у процілегласць яму, эмацыянальна адкрытыя звонку харавыя "Госпадзі, памілуй", "Слава", "Цару нябесны".

**Марына РАМЯНЮК.**

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

## (Валерый УРУБЛЕЎСКІ)

Стаяў моцны мароз з ветрам. Раптоўна наскочылі кубанцы. Ар'ергард пасечаны. Паўстанцы пахіснуліся. Імгненна ацаніўшы абстаноўку, Урублеўскі павярнуў каня насустрач карнікам... Ён бачыць раздзьмутыя храпы казацкага каня, бляск варожай шаблі, спрытна адбівае ўдар. Але да яго падскочыла ўжо некалькі... Пякучы боль у плячы. Потым нібы маланка працінае галаву... Палкоўнік Урублеўскі выпускае клінок і падае з каня...

На гэтым канчаецца дзённік Арамовіча.

Пра смерць Урублеўскага ў гэтай сутычцы паведаміла польская газета "Глос вольны", якая выходзіла ў Лондане. Яго імя ёсць у зборніку паўстанцкіх некралогаў "Памятка для польскіх сем"яў" З.Калюмны (кніга выйшла ў Кракаве ў 1868 годзе).

Але Урублеўскі не загінуў.

Як удалося яму выратавацца? Сёе-тое ён помніў сам, астатняе прыйшлося ўзнаўляць пасля па расказах таварышаў і проста добрых людзей, якія ў гэты страшны момант апынуліся побач.

Дык вось, калі Урублеўскі зваліўся з каня і казакі ў азарце пагоні прамчаліся над ім, нейкі селянін заўважыў, што "мяцежнік" яшчэ дыхае, і зацягнуў яго ў гумно. Пазней удалося перанесці раненага камандзіра ў бліжэйшы маёнтак Завепшыцы, які арандаваў прыхільнік паўстанцаў Ксаверый Складоўскі. Там Валерыя схавалі і зрабілі ўсё, каб вырваць яго з лап смерці. Моцны арганізм перамог, хаця да поўнай папраўкі было яшчэ далёка. Навокал гойсалі карнікі, якія дорага б далі за галаву славутага камандзіра. Аставацца ў маёнтку было небяспечна, ды і сам Урублеўскі не хацеў наклікаць бяду на людзей, што прытулілі яго. Калі крыху ачуняў, узнік план пераправіць яго ў Галіцыю, якая ўваходзіла тады ў склад Аўстрыі.

За выкананне плана ўзялася маладая сваячка гаспадара Баляслава Складоўская, цётка будучага сусветна вядомага фізіка Марыі Кюры-Складоўскай. Гэта была смелая дзяўчына, якая не раз памагала паўстанцам і лічылася "кур'еркай" (сувязной) паўстанцкай арганізацыі.

Баляслава пераапранула Урублеўскага ў жаночае адзенне і везла яго ў карэце як сваю эканомку. Небяспечная дарога ішла праз усю Любліншчыну да самай аўстрыйскай мяжы. Ужо ў самым пачатку адбыўся эпізод, які потым часта ўспамінаў Урублеўскі.

Каб выехаць з павета, трэба было атрымаць пропуск ад царскага ваеннага начальніка. Для гэтага Складоўская з бацькам і пераапранутым Урублеўскім адправіліся ў вайсковы лагер. Пакуль бацька афармляў паперы, Баляслава са сваёй занадта рослай, але прыгожай "эканомкай" заставалася ў карэце. Вядома, яны прыцягнулі ўвагу маладых афіцэраў, якія акружылі карэту. Спачатку ішлі звычайныя ў такіх выпадках заляцанні і жарты, потым аднаму з афіцэраў "эканомка" падалася падазронай, і ён пачаў яе распытваць. Хвіля была вельмі трывожная. "Я стаў шукаць свой пісталет, -- расказваў праз шмат гадоў Урублеўскі, -- каб для апошняга свайго сусяшэння размажджэрыць яму лоб, але не мог намацаць кішэні пад спадніцай". На шчасце, у гэты момант пад'ехаў старшы афіцэр, які адагнаў сваіх маладых таварышаў і, нахіліўшыся да паўстанца, шапнуў: "Прывядзіце ў парадак свой твар". Складоўская зірнула на свайго суседа і замерла: па ягонай шчацэ з незагоенай яшчэ толкам раны цёк тоненькі струменьчык крыві. Да канца жыцця Урублеўскі так і не ведаў, хто быў гэты высакародны афіцэр. "Ці быў гэта паляк або рускі? І ўсё ж я схільны думаць, што гэта быў рускі..." -- раздумваў ён пазней.

І вось Урублеўскі, як сотні і тысячы іншых былых паўстанцаў, апынуўся ў Парыжы. Спачатку жыў на мізэрны заробак ліхтаршчыка, потым навучыўся друкарскай справе і працаваў у друкарні. Туліўся ў невялікім пакойчыку недзе пад самым дахам таннага атэльчыка. Пасябраваў з французскімі рабочымі, якія па-таварыску даглядалі яго, калі ён захварэў воспай. (Дарэчы, Урублеўскі, як і некаторыя іншыя вельмі дужыя па прыродзе людзі, не любіў дактароў. І ад воспы вылечыўся сам -- ляжаў у сваім пакойчыку, харчаваўся адным цёплым чаем. Кажуць, што гэта і выратавала яго, бо ў перапоўненых шпіталях людзі мёрлі, як мухі. Пазней Урублеўскі пісаў К.Марксу, што "прывык здаўна... лячыцца, як сабака, пакідаючы гаенне сваіх ран прыродзе").

У канцы 60-х -- пачатку 70-х гадоў Урублеўскага можна было сустрэць у парыжскіх рабочых клубах. Зноў адчувалася набліжэнне рэвалюцыйнай буры. Аднак сярод рабочых не было адзінства. Урублеўскі з цікавасцю слухаў прамоўцаў, прыглядаўся да розных плыняў, якія існавалі ў рабочым і рэвалюцыйным руху -- марксісты, пруданісты, бланкісты, анархісты-бакунінцы... У вольныя часы хадзіў у французскую вайсковую школу, звяраў свой вопыт партызанскай вайны з ваеннай тэорыяй.

Як герой паўстання, рашучы і прамы чалавек, Урублеўскі меў вялікі аўтарытэт у эміgranцкім асяроддзі, пастаянна выбіраўся ў кіруючыя органы польскай дэмакратычнай эміграцыі.

Сярод эмігрантаў ішлі гарачыя спрэчкі пра прычыны паражэння паўстання, пра шляхі, якімі можна дасягнуць нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення радзімы. Былі такія, што неахвотна расставаліся з грузам старых шляхецка-нацыяналістычных памылак. Разам з Яраславам Дамброўскім Урублеўскі выступаў у гэтых дыскусіях як перакананы дэмакрат, прадаўжальнік і сцяганосец лепшых рэвалюцыйна-дэмакратычных традыцый паўстання, традыцый Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага.

Цудоўным дакументам, які вельмі красамоўна перадае тагачасныя погляды, рэвалюцыйную страснасць і перакананасць Урублеўскага, з"яўляецца яго адозва "Да ўсёй аб'яднанай польскай дэмакратыі" ад 1 лютага 1869 года. Гэта "крэда" палымянага рэвалюцыянера, яго сімвал веры.

"...Для іншай Польшчы, чым тая, дзе панаванне чалавека над чалавекам саступіць месца царству свабоды, розуму і права, дзе невуцтва знікне ў промнях агульнай асветы, а галеча -- у добрасумленным размеркаванні агульных выгод, для іншай Польшчы я не магу ні жыць, ні паміраць", -- заяўляў Урублеўскі. І яшчэ: "Усё для народа і праз народ -- у гэтым лозунгу я знаходжу не толькі палітычны ідэал нашай айчыны, але і сродкі да яго здзяйснення". Пра Беларусь тут, на жаль, не згадвалася, але, мяркуючы па ўсім, Урублеўскі бачыў яе будучыню ў федэратыўнай сувязі са свабоднай Польшчай -- мільганула ў адозве ўпэўненасць, што новая Польшча, як федэрацыя, захавае "ў цэласці свае гістарычныя межы". Вядома, былому кіраўніку "літоўскай партыі", паплечніку Каліноўскага, варта было б агаварыць гэтую акалічнасць спецыяльна. Але эміграцыя не садзейнічала захаванню сувязей з беларускай культурай. Да таго ж тонкі пласт тагачаснага беларускага Адраджэння быў ці не ўшчэнт пабіты рэпрэсіямі 1863 года.

У 1870 годзе пачалася франка-пруская вайна. Эмігранты, для якіх Францыя стала другой радзімай, напружана сочаць за падзеямі на фронце. Надзьмуты прускі мілітарызм ні ў кога не выклікаў сімпатый. Але звесткі былі нярадасныя. Французскія войскі цярпелі паражэнне за паражэннем.

Разам з многімі сваімі таварышамі Валерый Урублеўскі апрануў мундзір нацыянальнага гвардзейца і вытрымаў працяглую аблогу Парыжа: хадзіў на дзяжурствы ў траншэях, удзельнічаў у вылазках, галадаў, мёрз.

У канцы студзеня 1871 года французскі ўрад капітуляваў. Народ, які прынёс столькі ахвяр і не адчуваў сябе пераможаным, быў абураны да глыбіні душы.

Урублеўскі таксама абураўся капітуляцыяй, думаў аб працягу барацьбы. Ён абкладаўся картамі і марыў пра перамогі над прусакамі. Ягоны зямляк Юзаф Такаржэвіч успамінаў, як у лютым 1871 года Урублеўскі прыйшоў да яго і прапанаваў прайсці праз нямецкія пасты, каб агледзець мясцовасць. "Валерак, -- запісваў Такаржэвіч, -- таксама ж, як і Яраслаў (Дамброўскі), думае, што другі перыяд вайны, другая па чарзе стадыя, непазбежны..." Далей Такаржэвіч з глыбокай сімпатыяй адзначаў характэрныя рысы Урублеўскага -- "жвавасць, вытрымку думкі, шырыню погляду, здольнасць хутка ўспрымаць вызначальныя і галоўныя акалічнасці ў сітуацыі... Пры гэтым ён ідэаліст, і сэрца ў яго мяккае".

Тут падаспелі новыя хвалюючыя падзеі.

18 сакавіка 1871 года нацыянальная гвардыя і народ рабочых раёнаў Парыжа далі адпор урадавым войскам, якія спрабавалі абяззброіць рабочых. Утварылася Парыжская камуна.

Урад Цьера кідае на Парыж свае войска, распачынаючы такім чынам грамадзянскую вайну. Лепшыя з эмігрантаў-дэмакратаў успрынялі камуну як сваю ўласную справу.

Спіс сыноў і дачок розных народаў, якіх парадніл барыкады Парыжскай камуны, пэўна, быў бы бясконцы. Сваё адважнае сэрца воіна-рэвалюцыянера, свой ваенны талент і вопыт аддаў камуне і паплечнік Каліноўскага Валерый Урублеўскі.

Дакументальна вядома, што 7 красавіка 1871 года Урублеўскі падаў у ваенную камісію камунараў заяву, у якой аддаваў сябе ў распараджэнне камуны і выкладаў свае погляды на вайну з версальцамі. Армія камуны зазнала перад гэтым першыя прыкрыя няўдачы, і ёй вельмі патрэбны былі вопытныя і адданыя людзі.

Валерый Урублеўскі, палкоўнік у час паўстання 1863 года, становіцца, як і Дамброўскі, генералам Парыжскай камуны. Яму даверылі камандаванне паўднёвым фронтам.

"...Гэта быў малады чалавек з выдатным веданнем вайсковай справы, храбры, разумны, метадычны, ён умеў з усяго здабываць карысць і быў цудоўным кіраўніком маладых войскаў", -- пісаў пра Урублеўскага ўдзельнік і гісторык камуны Лісагарэ.

Федэраты (байцы камуны) любілі свайго новага генерала за прастату, адкрытасць, адвагу, за тое, што ён заўсёды дзяліў з імі ўвесь цяжар траншэйнага жыцця. Нават вясёлая грубаватасць генерала была па сэрцу простым рабочым хлопцам, якія ўзялі ў рукі стрэльбы, каб бараніць сваю рэспубліку.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 50-2 (1994 г.).**

## У ВІЦЕБСКУ З'ЯВІЎСЯ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

# ЁН ЖЫВЕ І ЧАКАЕ

Для многіх гэта будзе прыемнай і нечаканай навіной: у Віцебску адкрыты і працуе Мастацкі музей. Ён лічыцца філіялам краязнаўчага музея, дзе раней экспанаваліся выставы віцебскіх мастакоў. Паказвалі іх і ў галерэях горада (дарэчы, іх нямала тут). У Віцебску шмат мастакоў. Можна выпадкова зайсці ў маленькае кафэ, каб выпіць кавы, і трапіць на выставу прыгожых акварэляў, выкананых з тонкасцю і пяшчотай. Ці ўбачыць сапраўды добрую карціну ў камісійным магазіне. Як мог жыць горад мастакоў без мастацкага музея? Размешчаны ён у былым партыйным будынку, які ўзведзены ў 1883 годзе для акруговага суда. Перад вайной дом стаў Палацам працы. Форма збудавання -- п-падобная. На жаль, на першым паверсе нізкія столі, і для выстаў можна выкарыстоўваць толькі 2-гі і 3-ці паверхі. Тыя, хто бываў у партыйных установах, памятаюць, што ўяўляюць сабой гэтыя памяшканні. Доўгі калідор і кабінеты, кабінеты. Добра, што не маленькія. Карціны павесіць можна. Аднак будынак патрабуе рэканструкцыі, а на гэта трэба шмат грошай, якіх у музея няма.

Цяпер музей рыхтуецца да канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю заснавання віцебскай школы-майстэрні і 70-годдзю Віцебскага мастацкага тэхнікума. Дарэчы, да Вялікай Айчыннай вайны ён быў адзінай мастацкай установай на Беларусі. Канферэнцыя павінна прайсці ў сакавіку. Тады будзе наладжана і выстава.

У музея няма яшчэ пастаяннай экспазіцыі, над яе стварэннем толькі працуюць. Але ж сёння ўжо там можна ўбачыць выставу "Юры Пэн і яго вучні". Юры Пэн -- мастак, які працаваў у падкрэслена рэалістычным накірунку. Ён пісаў партрэты, пейзажы ("Партрэт К. Меклера", "Партрэт кабеты", "Віцьба"). Быў гэты чалавек вялікім патрыётам горада і ўсе свае працы завяшчаў Віцебску. Там у 1939 годзе была адкрыта мастацкая галерэя імя Пэна. Але прыйшла вайна. І супрацоўнікі галерэі, каб зберагчы калекцыю, везлі карціны пад дажджом і сонцам у Саратаў. Пасля вайны карціны вярнуліся ў Віцебск, адкуль іх нечакана па чыімсьці загаду вывезлі ў Мінск (добра, што не ў Маскву, а то не ўбачылі б мы іх і да сённяшняга дня). Творы ў сталіцы рэспублікі ў асноўным ляжалі ў запасніках Дзяржаўнага мастацкага музея (ягоная плошча не дазваляе паказваць усё яго мастацкае багацце). Некалькі гадоў назад паміж музеем у Мінску і краязнаўчым музеем у Віцебску пачалася доўгая перапіска. Вынік яе: у 1992 годзе 152 карціны Пэна вярнуліся ў родны горад мастака (праўда, у Мінску засталіся некаторыя працы Ю. Пэна і экспануюцца ў пастаяннай экспазіцыі).

Нядаўна 7 карцін Юры Пэна былі на выставе ў Парыжы (менавіта тыя, што ляжалі доўгі час у запасніку Мастацкага музея ў Мінску). Цяпер цэнтр яўрэйскай культуры ЗША хоча ўзяць для правядзення выстаў у гэтай краіне некалькі прац мастака.

Мне робіцца заўсёды няёмка, калі да беларусаў залічваюць людзей, якія тут нарадзіліся, але вучыліся не тут і зрабілі славу іншым краінам. Пра гэта сапраўды не варта крычаць, аднак усвядоміць неабходна, што ўзровень культуры залежыць ад узроўню эканомікі, адукацыі ў краіне. Для развіцця таленту ў краіне павінна існаваць база, інакш ён не зможа ў ёй жыць, задыхнецца ці з'едзе. Прыклады? Марк Шагал, Іван Хруцкі, вядомы як майстра нацюрморта, нарадзіўся ў Віцебскай губерні. А хто з нас чуў імя Соф'і Ганчаровай? Яна вучылася ў жаночым прыватным пансіёне пад Віцебскам. Дзяўчына напісала партрэт гаспадыні ўстановы Пюры, які доўгі час знаходзіўся ў пастаяннай экспазіцыі Гістарычнага музея ў Маскве.

Яшчэ адна выстава ў Мастацкім музеі горада Віцебска -- творы рускіх мастакоў мінулага стагоддзя (С. Заранка -- дарэчы, ураджэнец Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці, У. Макоўскі, І. Левітан).

Мастацкі музей у Віцебску толькі пачынае сваю дзейнасць. Горад гэты варты мець добры музей. Пакуль ён не надта ўтульны, бо галеча праступае ва ўсім, акрамя добрых карцін. Пакуль ля ўваходу ў музей стаяць бюсты заснавальнікаў марксізму-ленінізму. Але гэта ўсё другаснае. Галоўнае -- каб мастакі адчулі, што ў іх горадзе ёсць музей, і захацелі падараваць яму свае працы. Ён згодны і купіць іх, але тут ад творцаў спатрэбіцца разуменне, што музей не можа заплаціць столькі, колькі плацяць за мяжой.

Экскурсавод Ганна Бебрына заклікала ад імя ўсіх супрацоўнікаў музея зразумець, што для кожнага мастака -- гонар, калі ягоная праца знаходзіцца ў музеі. Прыватныя калекцыі -- іншы ўзровень. Музей -- гэта гісторыя. Усе, хто вучыўся ў Віцебску, каму дарагі гэты горад і хто можа нешта зрабіць для мастацкага музея, -- звяртайцеся туды. Ён жыве і чакае вас.

**Алена СПАСЮК.**

# АГЛЯДЫ І РЭЦЭНЗІІ

Часопіс "Славяноведение" выпускае Расійская акадэмія навук шэсць разоў на год. У першым з іх за мінулы год Ю. Лабынцаў у раздзеле "Агляды і рэцэнзіі" грунтоўна разглядае факсімільны выпуск знакамітай скарынаўскай "Біблії", ажыццёўлены ў трох тамах выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. У трэцім нумары ў згаданым раздзеле А. Анікін уважліва прачытвае сёмы том "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы", што пабачыў свет у выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1991 годзе. Заўвагі выказаны істотныя. І, нарэшце, у пятым нумары нельга прамінуць артыкул доктара гістарычных навук, вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі У. Дзякава "Т. Касцюшка і яго паплечнікі пасля паражэння пры Мацейёвіцы (1794--1798)". Як вядома, рэспубліка рыхтуецца шырока адзначыць 200-годдзе гэтага паўстання. У артыкуле ж гаворка ідзе "аб найбольш важным і змястоўным комплексе крыніц, што захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў". Разглядаюцца і матэрыялы Тайнай экспедыцыі сената, што з'яўлялася ў Расіі вышэйшым органам палітычнага вышуку. Тут жа выкладчык Гродзенскага універсітэта, аспірант Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Т. Кручкоўскі выступае з артыкулам "Праблемы падзелу Рэчы Паспалітай у рускай гістарыяграфіі другой паловы XIX -- пачатку XX стагоддзяў".

